# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ

## АПАЛОН — 12

14 лістапада г.г. трох амерыканскіх касманаўтаў адправілася на Месяц. Касманаўты адправіліся на касмічным караблі «Апалон — 12». Гэта другая адпраўка людзей на сярэбраную планету.

## ХЕЛЬСІНКІ — СПРАВА МІРУ

Хельсінкі — сталіца незаангажаванай Фінляндыі ў апошні час сталася слаўнай. Прычынай гэтай славы сталіся прапановы фінляндскага ўрада адносна гатоўнасці яго стацца гаспадаром і арганізатарам міжнароднай нарады ў справе бяспекі ў Еўропе.

Ад панядзелку (17.XI.г.г.) вочы палітыкаў і дыпламатаў яшчэ раз звярнуліся на Хельсінкі. Іменна ў гэты дзень пачаліся размовы між дэлегацыямі Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў на тэму ўстрымання гонкі стратэгічных узбраенняў. Савецка-амерыканскія размовы ў Хельсінках выклікаюць велізарнае зацікаўленне, таму што адносяцца яны да найбольш жыццёвых спраў нашага свету — спраў звязаных з ракетнымі сістэмамі, а магчыма з ліквідацыяй тэрмаядзернай зброі. Справа на толькі важная, што абедзве супердзяржавы здаюць сабе справу, што гонка ўзбраенняў найбольш абцяжарвае бюджэты гэтых дзяржаў і што наступіла вялікае накапленне тэрмаядзернай зброі, пагражаючае катастрофай.

Справы, якія будуць разглядацца ў Хельсінках, вельмі скамплікаваныя і цяжкія, таму што знаюцца на іх толькі выдатныя спецыялісты. І тэму міжнародныя назіральнікі і прадстаўнікі дзяржаў не лічаць на хуткае разгледжанне спраў.

## СПРАВЫ ПОЛЬШЧЫ Ў БОН

У Бон назіраецца вялікае зацікаўленне справамі Польшчы. На першае месца высоўваецца справа дыялагу з урадам Народнай Польшчы, хаця надалей адчуваецца недахоп канкрэтных прапаноў адносна перагавораў Бон—Варшава. Маўчаць аб прызнанні граніцы на Одры і Нісе і газеты і ўрадавыя палітыкі ФРГ.

Ва ўсёй рэспубліцы адчуваецца вялікую ўражлівасць на суадносіны ФРГ — Польшча. З вялікай увагай сочаць тут кожны каментарый з Польшчы аб ФРГ. І гэта добра, гэта нешта новага ў бонскай рэспубліцы.

## «ПАХОД СУПРАЦЬ СМЕРЦІ»

Гэта велізарная маніфестацыя пратэсту амерыканскага грамадства супраць агрэсіі ЗША ў В'етнаме. У гэтым паходзе прыняло ўдзел 200 тысяч асоб. Пратэстацыйная акцыя адбывалася вельмі спакойна з захаваннем поўнага парадку. Тым не менш улады занепакоеныя размерамі маніфестацыі абсадзілі ўсе будынкі федэральных установ у Вашынгтоне.

Маніфестацыя амерыканскага грамадства супраць палітыкі адміністрацыі з'яўляецца наяўным доказам Ніксану, што надалей ён у дрыгве.

А.К.

 БССР

## КАСТРЫЧНІЦКАЙ

У сувязі з 52-ой гадавінай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі адбылася на Цэнтральнай плошчы ў Мінску дэманстрацыя беларускіх працоўных. Дэманстрацыю папярэдзіў парад войскаў Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.

Ад імя і па даручэнню Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі і ўрада Беларусі з прывітальнай прамовай да воінаў і працоўных рэспублікі выступіў камандуючы войскамі акругі генерал-палкоўнік І. Трацяк.

## ПРЭЗІДЫУМА

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, у час якога заслухана даклад старшыні выканаўчага камітэта Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў працоўных К. Мацюшэўскага аб практыцы правядзення справаздач выканаўчых камітэтаў мясцовых Саветаў, іх аддзелаў і ўпраўленняў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый перад насельніцтвам.

Амаль усе камітэты выступалі перад насельніцтвам са справаздачамі аб сваёй дзейнасці. Выяўлена шмат недахопаў у практыцы арганізацыі такіх справаздач: слабая падрыхтоўка, няпоўная інфармацыя і г.д.

## ТУРАЎЦА

Пад старшынствам дэпутата Д. Тураўца адбылося пасяджэнне Пастаяннай камісіі па сельскай гаспадарцы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб рабоце аграхімічнай службы па павышэнню культуры земляробства ў Гомельскай вобласці.

Сельскагаспадарчыя органы гэтай вобласці нездавальняюча кантралююць дзейнасць аграхімічнай службы і кіраўнікоў гаспадарак па эфектыўнаму выкарыстанню ўгнаенняў. Нягледзячы на павелічэнне пастаўкі і ўнясення мінеральных угнаенняў у глебу, ураджайнасць асноўных збожжавых культур на Гомельшчыне застаецца нізкай.

## ЛУЖАНІН

Галоўны рэдактар сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм», пісьменнік А. Каратай (Максім Лужанін) атрымаў дакумент заслужанага дзеяча мастацтваў Беларускай ССР.

## «ЛІТАБ'ЯДНАННЕ»...

Цэнтральная беларуская газета «Звязда» змясціла артыкул «Літаб'яднанне пры раённай».

«...літаратурная творчасць — справа не толькі пісьменнікаў. Гэта — усенародная справа», — зазначае аўтар артыкула маючы на ўвазе перш за ўсё дапамогу маладым і пачынаючым беларускім паэтам, празаікам.

Пры многіх раённых газетах у Беларусі існуюць часта шматлікія літаратурныя аб'яднанні, удзельнікі якіх нярэдка з'яўляюцца нават аўтарамі кніжак.

## ТАНЦА

Гэтымі днямі ў Мінску, у маляўнічым кутку парку імя Чэлюскінцаў адкрыта Палац танца, мілы падарунак моладзі сталіцы. Плошча танцавальнай залы 400 квадратных метраў. Упрыгожанні беларускага мастака Антона Валатовіча.

Месца баляў, танцавальных конкурсаў, навагодніх ёлак. (С.Я.)

 ПОЛЬШЧА

## IV ПЛЕНУМ

Адбылося IV Пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. На парадку дня стаялі пункты:

1) Павышэнне эфектыўнасці навуковых доследаў і тэхнічна-арганізацыйнага прагрэсу ў нацыянальнай гаспадарцы.

2) Пастанова ў справе адзначэння 100 гадавіны нараджэння У. Леніна.

Абрадамі кіраваў І сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка. У першым пункце парадку дня з дакладам выступіў старшыня Камітэта навукі і тэхнікі Ян Качмарак. Ва ўступе прамоўца заўважыў, што далейшая паспяховая рэалізацыя накрэсленай на V з'ездзе праграмы інтэнсіфікацыі нашай гаспадаркі патрабуе шырокага ўвядзення ў практыку дасягненняў навукі і тэхнікі, прымянення навуковай арганізацыі працы, усё больш творчай даследчыцкай дзейнасці. Наступна тав. Качмарак ахарактарызаваў датагачасныя дасягненні навукі. На працягу 25-годдзя Народнай Польшчы асягнута высокі кадразы і матэрыяльны ўзровень навукова-даследчай базы. На кожных тысячу рабочых, якія працуюць у нацыянальнай гаспадарцы, выпадае каля 27 асоб працуючых у навуковых і механічных установах. Адмоўнай рысай нашага гаспадарчага развіцця з'яўляецца аднак тое, што ад шэрагу гадоў назіраецца змяншэнне тэхнічнага і арганізацыйнага прагрэсу ва ўзросце прадукцыйнасці працы і чыстай прадукцыі. Колькасць навукова-тэхнічных развязак выкарыстаных і распаўсюджаных у гаспадарцы ўсё яшчэ з'яўляецца надта малая — асягае яна ў сярэднім 10—20 працэнтаў развязак, над якімі працуюць вучоныя і тэхнікі.

Далей тав. Качмарак ахарактарызаваў галоўныя заданні ў галіне павышэння эфектыўнасці навукова-тэхнічных доследаў. За найважнейшыя напрамкі даследчай працы ў бліжэйшых гадах трэба прызнаць тыя, якія могуць уздзейнічаць на паляпшэнне эканамічнай эфектыўнасці прадукцыі. У прыватнасці заняцца трэба ўвядзеннем эканамічна абаснаванай аўтаматызацыі сярэднесерыйнай прадукцыі. Звязана гэта з неабходнасцю прыспяшэння працэсу ўводжання сучаснай арганізацыі прадукцыі і кіравання з улікам сучаснай тэхнікі электранічнай перапрацоўкі дадзеных. Неабходным з'яўляецца таксама шырэйшае выкарыстанне дасягненняў сельскагаспадарчых навук, якія прыспешаць прагрэс у сельскай гаспадарцы. У сувязі з узрастаючым запатрабаваннем на навукова-даследчыя працы фінансавыя сродкі на гэтыя працы ўзрастаць будуць хутчэй чымсьці ўзрост нацыянальнага даходу і ў 1975 асягнуць 25 мільярдаў злотых, гэта значыць у два разы больш чымсьці ў 1969 годзе.

У другім пункце парадку дня пленум выслухаў даклад сакратара ЦК партыі Яна Шыдляка на тэму адзначэння 100 гадавіны нараджэння Леніна і прыняў у гэтай справе пастанову. (п)

 ВАЯВОДСТВА

## ВЫШЭЙШАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ШКОЛА

Вышэйшая школа сельскай гаспадаркі (СГГВ) у Варшаве адкрыла свой пастаянны кансультацыйны пункт у Беластоку. Урачыстасць з гэтай нагоды адбылася ў Беластоку 16 лістапада г.г. З беластоцкага кансультацыйнага пункта карыстае зараз звыш 100 студэнтаў.

## 25-ГОДДЗЕ ФАБРЫКІ

Прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Сяржана ў Беластоку 15 лістапада ўрачыста адзначала сваё 25-цігоддзе.

## ГАСПАДАРКА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Ваяводскае статыстычнае бюро аб'явіла справаздачу аб стане гаспадаркі Беластоцкага ваяводства за 10 месяцаў г.г. Сцвярджае яно, між іншым, што гадавы план кантрактацыі чатырох асноўных збожжавых культур сяляне ваяводства выканалі ледзь у 89,5%. Толькі пяць паветаў: Элцкі, Граеўскі, Алецкі, Сейненскі і Сакольскі — поўнасцю выканалі план кантрактацыі збожжа. У кастрычніку г.г. гаспадары Беласточчыны даставілі на скупачныя пункты на 55,7% больш збожжа, як у кастрычніку мінулага года.

Прамысловасць ваяводства свае прадукцыйныя планы за дзесяць месяцаў г.г. выканала ў 102,7%. Вартасць валавой прадукцыі ў гэтым перыядзе часу была на 10% вышэйшая, як у гэтым жа часе ў мінулым годзе. Таксама на 10% павысіліся абароты гандлёвых прадпрыемстваў.

Варта яшчэ адзначыць, што жыхары Беласточчыны актуальна склалі на ашчадныя кніжкі блізка 2 мільярды злотых. Статыстычнае бюро сцвярджае пастаянны рост заможнасці грамадзян, ашчаднасці якіх у параўнанні з 1968 годам павялічыліся аж на 21%.

## ПРАФСАЮЗЫ І РАДЫ

У Беластоку адбылося пасяджэнне Ваяводскай камісіі прафсаюзаў. Было яно прысвечана ацэнцы і далейшаму замацаванню супрацоўніцтва прафсаюзаў з радамі нарадовымі. Даклад на гэту тэму прачытаў Браніслаў Ігнасяк, які з'яўляецца сакратаром Ваяводскай камісіі прафсаюзаў. У пасяджэнні прыняў удзел сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП Аляксандр Младзяноўскі.

## ДРАЎНЯНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ...

...Беластоцкага ваяводства займае перадавое месца экспарту сваіх вырабаў. Самым буйным прадпрыемствам гэтай прамысловасці з'яўляецца гайнаўскі камбінат. Адстаўляе ён на экспарт звыш 27% сваёй прадукцыі. Рабочыя камбіната атрымалі згулам за першае паўгоддзе г.г. аж 165 тысяч зл. экспартнай прэміі.

## АЎТАРСКІЯ СУСТРЭЧЫ

На аўтарскіх сустрэчах у Беластоцкім ваяводстве пабывала пісьменніца Марыя Шулецкая, якая з'яўляецца, між іншым, аўтарам кніжкі «Топтаная зямля». Гэтая кніжка расказвае пра трагічны лёс вёскі Райск і яго наваколле. Пісьменніца найбольш была задаволена з сустрэчы ў Страблі, пра якую часта ўспамінае ў сваёй кніжцы. Арганізатарам аўтарскіх сустрэч была Ваяводская бібліятэка. (вр)




**Niedziela, 23.XI.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: „Produkcja i wykorzystanie pasz w gospodarstwie”. 9.40 „Przypominamy, radzimy”. 10.00 „Obiektyw”. 10.30 „Drugie narodziny emalii”. (Moskwa). 11.00 „Grand Prix Festiwalu” („W starym kinie”). 11.50 Dziennik. 12.05 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej I Liga — Pogoń (Szczecin) — Stal (Rzeszów). 12.45 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej I Liga — Gwardia (Warszawa) — Zagłębie (Sosnowiec). 13.30 Losowanie Toto-Lotka. 13.45 „PROM”. 14.35 „Przemiany”. 15.05 „Cecylia — lekarka wiejska” — film. 15.30 „Piórkiem i węglem”. 15.55 „Hetmański ordonans” — film TVP („Przygody pana Michała”). 16.25 Estrada Literacka: „Stanisław Wyspiański — poeta i malarz”, widowisko TV. 17.10 PKF. 17.20 „Tele-Echo”. 18.00 „Podwieczorek przy mikrofonie”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ach ci młodzi” — film fab. węg. 21.30 „Klub prof. Tutki” — film TVP. 21.50 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 24.XI.**

14.25 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec”. 17.35 „Echo stadionu”. 17.50 „Spójrzcie na jej twarz” — film dok. radz. 18.10 „Kino Filmów Animowanych”. 18.40 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: „Epilog Norymberski”. 21.45 „Muzyczna Praga” — film czechosł. 22.15 Dziennik.

**Wtorek, 25.XI.**

9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — J. Słowacki „Balladyna”. 9.35 „Trzydzieści trzy” — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „O miejsce wśród ludzi” (Życzliwość). 11.25 Przerwa. 12.00 „Wybieramy zawód”. 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Jak powstaje mleko”. 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.10 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.25 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Program filmowy. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.00 „Rozmowy o książkach”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Trzydzieści trzy” — film fab. radz. 21.20 „Kontakty”. 21.50 Dziennik.

**Sroda, 26.XI.**

10.00 „Ścigany” — film. 10.50 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Nacisk i ciśnienie”. 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Kierunek nowoczesność”. 13.15 Przerwa. 14.25 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Spotkanie z biało-czerwoną”. 17.30 „W kręgu przyjaciół” (Moskwa i Warszawa). 18.30 Transmisja z meczu piłki nożnej o Puchar Miast Targowych: Ruch (Chorzów) — Ajax (Amsterdam) (II połowa meczu). (Zabrze). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ścigany” — film. 20.55 „Światowid”. 21.25 PKF. 21.35 Studio 63: Z. Krasiński — „Szkice do portretu”. 22.35 „Rozmowy o książkach”. 22.50 Dziennik.

**Czwartek, 27.XI.**

8.15 „Matematyka w szkole”: „Długość okręgu i jego łuku”. 8.45 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Dante „Petrarka” 10.30 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Władysław Reymont”. 12.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: Instalacja elektryczna w ciągnikach rolniczych”. 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.30 Politechnika TV I roku. Chemia. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem”. 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 Program publ. 18.45 „Wybitni polscy artyści”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Nieboszczyk w kufrze” — film TV ang. 21.00 „Nie ma kaleki — jest tylko człowiek” („Wielcy znani i nieznani”) — Maria Grzegorzewska. 21.35 „Księżyc” — film TVP. 22.05 Dziennik.

**Piątek, 28.XI.**

10.00 „O carski tron” — film fab. bułg. 11.25 Przerwa. 14.25 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Aula” — sesja piąta. 17.50 „Nie tylko dla pań”. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 „Porównania”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Zrękowiny pana Michała” — film TVP („Przygody pana Michała” (odc. III). 20.35 „Lektury współczesne”. 20.45 Teatr TV: L. H. Morstin — „Polacy nie gęsi”. 22.15 „Za kierownicą”. 22.45 Dziennik.

**Sobota, 29.XI.**

10.00 „Prometeusz z Dalmacji” — film fab. jug. 11.20 Przerwa. 14.35 Program dnia. 14.50 TV Kurs Rolniczy: „Możliwości zwiększania ilości pasz w gospodarstwie”. 15.25 Program tygodnia. 15.45 Dziennik. 16.00 Puchar Interwizji w gimnastyce artystycznej (Berlin). 18.00 „Tramp”. 18.15 „Rajskie pióra” — film („Świat, który nie może zginąć”). 18.40 „Pegaz”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Kariera” — program rozrywkowy. Scenariusz — J. Fedorowicz. 21.45 Dziennik. 22.05 „Piosenki z Festiwalu w Splicie” — film rozr. jugosł. 22.45 „Twarz nieznajomego” — film TV ang.

 

## СКРАБЛЯКОЎСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

Ад вясны актывізаваў дзейнасць гурток ЗМВ у Скрабляках. У сувязі з конкурсам «Кожны колас на вагу золата» маладыя дапамагалі старым гаспадарам у жніўных работах, звозцы сена і ў малацьбе. Аказалі яны дапамогу сельскагаспадарчаму кааператыву ў Лужанах, суседняй вёсцы.

Прымаючы ўдзел у конкурсе «Найляпей азеленена вёска» засадзілі лесам адну трэцюю гектара аблогаў гаспадарскіх і адзін гектар у надлясніцтве Валілы.

Скраблякоўская моладзь парамантавала масток, палепшыла сорак метраў дарогі. Гаворыцца аб патрэбе арганізацыі беларускага аматарскага гуртка. Гэта магчымае, калі шырэй разгорнецца супрацоўніцтва моладзі з кіраўніком мясцовай школы, чалавекам, які зычыць маладым толькі дабра.

Душою пачынанняў моладзі з'яўляюцца браты Генік і Анатоль Лісаўцы.

## МОЛАДЗЬ З САКОЛЯЎ

Моладзь у Саколях пацікавілася сваім лёсам: аднавіла святліцу, пабудавала спартыўную пляцоўку. Удзельнічала ў пасадках лесу. (ся)

**УСЁ ЛЮДСКАЕ НАМ НЕ ЧУЖОЕ**

## Рэабілітацыя гарэлкі?

Усур'ёз усяго жыцця не пражывеш. А калі каму і ўдасца, будзе гэта не жыццё, а мука. Таму шукаем радасці: вялікай і малой, супольнай і толькі сваёй, у людзей і ў сябе, у прачытанай кніжцы і ў... гарэлцы. Так вось і падышлі мы да тэмы, якая сёння нам на сэрцы лягла. Гарэлка? Кепская яна, ці добрая? Хваліць яе трэба, ці ганіць? Ведаем многа вартасных народных песень у родзе «гарэлка, гарэліца мая, душанька весялушка, з табою я разам, з табою заўсёды, з табою мне жыць, з табой паміраць».

Расказваюць пры гарэлцы вясёлыя расказы аб тым, як сумныя і сплаканыя людзі, выпіўшы на мярлінах, забывалі словы святых песень і зацягалі аб лузе зялёным і дзяўчыне, якая чакае каханага ў вячэрняй расе над рэчкай. Смерць тады адыходзіла, пераставала лічыцца. Уставаў новы дзень з расой вячэрняй, з рэчкай імглістай, з усёй багатай паўнатой жыцця. Людзі глядзелі на месяц, і на гэты раз не бачылі Каіна забіваючага брата, але месяц смяяўся да іх, як на дзіцячых малюнках.

Адзін знаёмы з нецярплівасцю чакаў чацвёртага дзіцяці. Хацеў дачкі, пра яе сніў і марыў, для яе была сотня імёнаў, ніводнага для сына. Нарадзілася дачка. З радасці пайшоў упіўся так, што забыўся пра ўсе вывучаныя імёны сваёй дачкі. Іншы зноў з роспачы што дачка, а не сын выйшаў.

Кажуць, што Амерыка, ці багатая і культурная Швецыя выпіваюць менш гарэлкі ад нас. Але колькі тысяч у год яны з'ядаюць розных іншых наркотыкаў. Брыдуць у свет страшнай хоць прыемнай і хвіліннай ілюзіі, у забыццё страшнейшае, чым чорная смерць. А наша пачцівая гарэлка? Самае вялікае згнаіць печань, пасадзіць на страўніку і кішках крывавыя язвы, якія вядуць да рака, затармазіць даплыванне крыві да сэрца і яго «шляк трапіць», затуманіць розум, з'есць нервы і рукі будуць трасціся, зачырваніць нос, зашалее ў вачах, часта туста адаб'ецца на дзіцяці. Дык гэта ж дробязь, ці так?

Падаражэла гарэлка, каб мы менш пілі. Пэўна, даражэйшых рэчаў купляем менш. Але нарадзіны дачкі ці сына апіць трэба, смерць апіць трэба. Цану змяніць лёгка, толькі ўстарэлых звычаяў людскіх не зменіш. Але можна іх ашукаць. Людзі хітрэйшыя ад усяго. Чулі казку пра мужыка, які смерць ашукаў? Вельмі простым спосабам: павярнуў ложак хворай жонкі нагамі ўверх. Смерць засаромелася і адышла.

Узброеная такімі разумнымі аргументамі пайшла я па гарэлку. Вочы разбегліся. Колькі розных дарагіх паўлітраў. А я не хачу паўлітра. Я хачу ашукаць звычай. Хачу менш, чым паўлітра. Але менш няма ў продажу. Хочаш, не хочаш, трэба выпіваць паўлітра, бо звычай кажа, што ў бутэльцы пакідаць брыдка і могуць назваць цябе за гэта скупірадлам.

Бачыла недзе калекцыю малых, меншых і найменшых бутэлечак гарэлкі. Па 30, 50, 100, 150 грамаў у бутэльцы. Які выбар, які шык! Але гэта было ўсё загранічнае. У нас, хоць са скуры вылазь, соткі не купіш. А піць — п'ецца. Аднак паўтараем, трэба піць культурна. А для гэтага прапануем арганізаваць кааператыў разлівання гарэлкі з паўлітраў у малыя бутэлькі. Тады і я крыкну смела: вып'ем да дна!

**Ве-Ле**




Седзячы на лаўцы ў гарадскім парку любіў я калісьці слухаць доўтую балбатню цыганкі на тэму ўяўляемых ёю маіх эратычных прыгод, маіх клопатаў і маёй будучыні. У арыгінальным мастацтве цыганак — мастацтве варажэння ёсць не абы якая ўмеласць назірання жыцця, людзей і супольных усім праблем.

Але сапраўднае цыганскае мастацтва — гэта песня, цыганская песня, цыганская балада, якая ўвайшла назаўсёды ў славянскі а затым і агульнаеўрапейскі песенны рэпертуар. Разам з песняй астанецца назаўсёды ў славянскай традыцыі лірычны, поўны бунтарства вобраз цыгана — чалавека свабоды і прасторы, антыпод звычайнага мяшчанскага жыцця. Бо такімі ў сапраўднасці з'яўляюцца цыганы — гэтыя вечныя падарожнікі, якія прывандравалі да нас аж з далёкага Індыйскага мацерыка. Праз доўгія стагоддзі ўтрымалі яны сваю самабытную арыгінальную культуру, звычаі, абрады і спосаб жыцця.

Аднак цыганская самабытнасць — гэта не толькі арыгінальная песня, звычай, ці абрад. Гэта таксама прымітывізм жыцця, непісьменнасць, забабон. Першабытнасць цыганскага жыцця не падыходзіць да сённяшняга цывілізаванага свету, і таму зусім натуральнымі з'яўляюцца намаганні ўлад, каб схіліць цыганоў да пастаяннага жыцця і да асіміляцыі ў асяроддзі.

* ✲ *

Цыган Антон Валансевіч пасяліўся ў вёсцы Збуч, Гайнаўскага павета. Пасяліўся і пачаў гаспадарыць. Не меў ні плуга, ні бараны, бо навошта цыгану плуг ды барана. Не меў ні хаты, ні хлява, ні зямлі — нічога. Зямлю атрымаў ад мясцовай грамадскай рады і пачаў арганізаваць сабе гаспадарку.

Тым, каму прыйшлося калісьці будавацца, ведаюць, што гэта значыць. Але не ведаюць, што значыць будавацца цыгану Антону Валансевічу. Бо тады да добра вядомых сабе цяжкасцей муселі б дадаць і тое, што цыгану трэба купляць і будаваць не толькі хату, але ўсё — да найменшага калочка ў гаспадарцы, што мусіць ён адначасова вучыцца найбольш простых рэчаў, што ў яго пяцёра дзяцей і хворая жонка, што ён чалавек непісьменны і не ведае нават такой простай справы, што, каб дзяржаўная ўстанова нешта афарміла, трэба да яе складаць пісьмовую заяву.

А ўсё ж такі Валансевіч неяк дае сабе рады. Праўда, жыццё яго нялёгкае. Дакучаюць яму перш за ўсё звароты рознага роду даўгоў, а перш за ўсё зварот 85-тысячнай пазыкі ўзятай на засnаванне гаспадаркі.

У гэтым жа Збучы жыве другі цыган Уладзіслаў Ябланоўскі. Будучы малым дзіцём падчас ваеннай завірухі страціў бацькоў і выхаваўся ў табары ў прыбраным сямействе. Належыць да нямногіх цыганоў, якія маюць прафесію (з'яўляецца трактарыстам) і адукацыю (скончыў 7 класаў пачатковай школы). У Збучы знайшоў сабе мясцовую дзяўчыну Анну Весялоўскую ды пачаў з ёю жыццё. Амбіцыяй Ябланоўскага і яго адзіным імкненнем — жыць і працаваць, як усе сяляне ў вёсцы. Ды што зрабіць, калі ўсім вядома, што ён цыган.

Усе ведаюць, што ў чацвер адбываецца ў Бельску вялікі кірмаш, на які ўступ дазволены ўсім сялянам. Толькі не Уладзіславу Ябланоўскаму, хаця ён і селянін.

Паедзе ў горад, затрымліваюць яго міліцыянеры, правяраюць, ці чагосьці не ўкраў. Хацеў узяць у банку пазыку на загаспадараванне — але хто цыгану стане паручацца?

— Пільнуюць, бы разбойніка якога, — гаворыць жонка Ябланоўскага, — і не вядома за што: ці ён каго забіў, ці ён што каму ўкраў?

І сапраўды: Уладзіслаў Ябланоўскі не меў ніводнай карнай справы, як усе грамадзяне адслужыў у арміі, як усе грамадзяне хоча ўчціва жыць, працаваць, мець ад людзей давер і пашану.

* ✲ *

Валансевіч, Ябланоўскі і сотні ім падобных цыганоў пайшлі па закліку ўлад і грамадства, адмянілі векавечны свой спосаб жыцця і прыняліся за прадукцыйную працу. Безумоўна, што прыйшлося ім гэта нялёгка. Грамадства павінна належна ацаніць гэтую іх ахвярнасць. Нялёгка адмяняць жыццё свабодных «людзей натуры» на жыццё рабочага ці селяніна, тым больш, калі жыццё гэтае трэба пачынаць дaслоўна з нічога. Вядома, што раней ці пазней павінен быў наступіць канец цыганскай балады. Але ці мусіць ён быць такі сумны?

**Ул. Паўлючук**



**Антон Валансевіч з сям'ёю.** **Фота Цаф — Сянько**

## ГУТАРКА ПРА МАЖЛІВАСЦІ

Заатэхнік грамады Клюковічы, Міша Засенчук, сказаў:

У нашых вёсках налічваецца больш трох тысяч трохсот штук быдла. У тым ліку 1938 кароў. Свіней каля пяці з палозаю тысяч, авечак больш трох з паловаю тысяч. Ці гэта вяршыні нашых мясцовых мажлівасцей? Не, не вяршыні: быдла можам мець да чатырох з паловаю тысяч штук, тое самае і з іншай жывёлінаю. Лугі меліяраваныя, даюць многа і добрага сена, адно трэба іх даглядаць (адпаведна). Зямля ў нас, пераважна, слабая: пяскі. Аднак, аказваецца, добра пахадзіўшы каля яе можна мець семнаццаць, а нават і дваццаць два цэнтнеры збожжа з гектара, ячменю да трыццаці цэнтнераў. Вядома, шмат залежыць ад таго, які год удасца, сельская гаспадарка — гэта не фабрыка.

Каровы нашы даюць няцэлых дзве тысячы літраў малака ў год. Аплачваецца тая карова, якая дае хоць з дзве пяцьсот. Нашу чырвоную пароду добра было б замяніць на «рабую», галандскую. Праўда, чырвоная больш вытрымалая на суровыя варункі, але і мала дойная. Гаспадары кажуць: трымаў бы адну «рабую», чым дзве нашыя. Думаю, трэба пераканаць улады, каб атрымаць галандскі ялаўнік на развод.

І яшчэ адно: гаспадары на «калёніях» лепшыя, на палосках горшыя. Церасналосіца перашкаджае нам. (ся)

## У НОВАЙ ВОЛІ

Кіёск «Руху» ў Новай Волі, Беластоцкага павета, прадае сем-восем экземпляраў «Нівы» штотыдзень. Узіму — да пятнаццаці экземпляраў. (ся)




## ПРА ЗАГІНУЎШЫХ ЗА НАРОДНУЮ ЎЛАДУ

Аддзел прапаганды Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку выдаў кніжку: **«Паўшыя ў барацьбе за ўмацаванне народнай улады на Беласточчыне».** Матэрыялы сабраў і падрыхтаваў іх да друку магістр **Міхал Насовіч.**

Хацелася б сказаць, што гэта вельмі цікавая кніжка. Аднак слова «цікавая» тут не на месцы. Перш за ўсё ўвекавечвае яна імёны найчасцей зверскі замучаных людзей. Спецыяльная праверачная камісія ўстанавіла, што ў 1944—1953 гадах банды рэакцыйнага падполля, якія дзейнічалі на Беласточчыне, пазбавілі жыцця 2782 асобы. Піша пра гэта Міхал Насовіч. Падае ён таксама, што па забітых асталося нейкіх 720 удоваў і 2 000 сіротаў, што сем'і загінуўшых, асабліва сем'і сялян, асталіся часта ў цяжкіх бытавых умовах, патрабавалі дапамогі дзяржавы, а нават некаторыя з іх патрабуюць яе яшчэ зараз.

Кніжку адкрывае кароткае ўступнае слова, якое абвяшчае, што гэтая кніжка «з'яўляецца падборкай матэрыялаў, якія адносяцца да барацьбы з узброеным падполлем...» Затым агульную ацэнку палітычнага становішча ў Беластоцкім ваяводстве ў 1944—1948 гадах дае вядомы гісторык, доктар **Генрык Маеўскі.** На аснове архіўных матэрыялаў аблічыў ён, што зараз пасля вызвалення Беласточчыны ўзброеныя сілы так званага «лонданскага» лагера, згрупіраваныя ў Беластоцкім ваяводстве, налічвалі 25—30 тысяч чалавек. Улічыўшы, што марксісцкія і прагрэсіўныя партыі толькі што распачыналі сваю дзейнасць на Беласточчыне, гэтая сіла рэакцыі была магутнай. Таму зусім апраўданым з'яўляецца сцвярджэнне аўтара апрацоўкі, што барацьба з рэакцыйным падполлем у Беластоцкім ваяводстве мела ўсе прыкметы грамадзянскай вайны. Гэтая вайна пасля вайны асабліва востры характар прыняла ў 1945 годзе. З падлікаў, праведзеных Міхалам Насовічам, вынікае, што гэты менавіта год быў найбольш крывавым. У барацьбе за народную ўладу пала тады амаль палавіна ўсіх загінуўшых у 1944—1953 гадах. А доктар Маеўскі сцвярджае: «У выніку дзейнасці рэакцыйнага падполля на весну 1945 года большая колькасць пляцовак (пастарункаў) грамадзянскай міліцыі, рассеяных на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, была ліквідавана, а будынкі, у якіх яны знаходзіліся, разбураны... Тэрарыстычная дзейнасць баявых атрадаў рэакцыйнага падполля стварала істотную перашкоду для далейшага развіцця дэмакратычных, палітычных партый у вёсках. Спынілі сваё існаванне вясковыя ячэйкі ППР, за выключэннем гэтых, якія знаходзіліся ва ўсходніх раёнах ваяводства, населеных беларусамі».

Змаганне гэтае працягвалася даўжэй, як другая сусветная вайна. Аб яго складанасці і заўзятасці расказваюць актыўныя ўдзельнікі барацьбы з бандамі, успаміны якіх знаходзім таксама ў гэтай кніжцы. Ёсць тут яшчэ каляндар важнейшых падзей у гісторыі барацьбы з бандыцкім падполлем у 1945—1948 гадах.

Другую частку кніжкі складаюць прозвішчы загінуўшых. Яны займаюць аж 106 старонак друку. Нічога больш, толькі прозвішчы, год нараджэння, дата і месца смерці. Гэты пералік з'яўляецца найбольш крычачым, найбольш перасцерагальным каментарыем. Асабліва сэрца скрыгоча ад болю і злосці, калі сярод гэтага рэестру знаходзім прозвішчы дзяцей, вось як гэтае з вёскі Кольніца, якому было ледзь 5 год. Забілі яго банды разам з мамай Тамарай Бакун 11 чэрвеня 1945 года.

Шмат ужо напісана пра барацьбу з бандамі. Гэтая кніжка выдаецца аднак найбольш поўнай. Характарызуе яе навуковая «сухасць», імкненне да поўнай гістарычнай аб'ектыўнасці, няма ў ёй эмацыянальнага падыходу. Аўтары далі нам у рукі амаль «голы» дакумент, які адносіцца да нашага нядаўнага мінулага. Аднак гэты дакумент крычыць.

**(В.Р.)**



 

 

Пачатак на стар. 1

# КАВАЛІ НАШЫХ МАРАЎ

нік. Аднак я супрацоўніцтва не пакідаў са школай. Настаўнікам быў тады Антон Краўчук, які аказаўся прагрэсіўным настаўнікам, бо дазваляў нам арганізаваць і ставіць беларускія камедыйкі.



Гады нямецкай акупацыі засталі Баравіка ў роднай вёсцы. Паколькі працаваў за савецкай улады настаўнікам, у нямецкіх спісках таксама фігураваў як настаўнік, але дзяцей не вучыў.

— Не вучыў я дзяцей таму, што трэба было ўступіць майму калегу Вадзіму Бяляўскаму. А было гэта так. Бяляўскаму пагражала небяспека. За саветаў быў ён арганізатарам туртка атэістаў у Беразове. Значыць, сітуацыя бязвыхадная, немцы могуць расстраляць. Гавару я Бяляўскаму — прыходзь у Вітава і вучы. Мне немцы далі ўпаўнамочанне, каб я вучыў, а я ж маю гаспадарку. Вучыў за мяне аж па 1943 год да моманту ліквідацыі школы, а я працаваў на гаспадарцы і мусіў асабіста ў гміне браць грошы спачатку 72, а потым 105 марак.

Пасля вызвалення Кірыл Баравік працуе ў розных мясцовасцях, а апошнія 17 год яго працы звязана са школай і асяроддзем Арэшкава. Ад пачатку народнай улады Кірыл Баравік з'яўляецца радным: Арлянскай гміны, потым Гайнаўскай, Чыжоўскай і Арэшкаўскай ГРН.

— У гэтым годзе ўжо адпрасіўся ад кандыдатуры на раднага. Папрацаваў 25 год і думаю, што маё месца павінны заняць маладзейшыя.

Міма сваіх 65 год Кірыл Баравік і зараз з'яўляецца старшынёй грамадскага камітэта Фронту адзінства народа, членам грамадскага камітэта ПАРП, а перш за ўсё настаўнікам.

Кіраўнік школы Мікалай Маліш так гаворыць аб ветэране педагогаў: «Працавіты і пунктуальны. Салідна вывязваецца з таго, што накладае на яго педагагічная рада. Не хоча ніякіх ільготаў, калі яму прапануем».

## АДНАГОДКІ НАРОДНАЙ ПОЛЬШЧЫ

Шукаючы іх сярод настаўнікаў Бельскага павета трапіў я на прозвішча **Сяргея Лукашука.** Выбраў гэтага настаўніка таму, што ён з'яўляецца ў пэўнай меры сімвалам абсалютна новага. Сяргей Лукашук, зараз кіраўнік школы ў Галадах, нарадзіўся тады, калі нарадзілася Народная Польшча — 22 ліпеня 1944 года.

Зразумела, Лукашук не памятае трагедыі акупацыі. Тое, што ведае і чаго сам вучыць аб мінулым гераізме польскага народа навучылі яго кніжкі, лекцыі, маладзёжная арганізацыя, партыя. Але і пераказалі бацькі. Калі радзіўся Лукашук, нашу зямлю таптаді спалоханыя гітлераўскія салдаты. Яны адступалі.

— Цікавым, калі не найцікавейшым у маім жыцці, — гаворыць С. Лукашук, — гэта тое, што за гадзіну да майго нараджэння загарэўся дом на вёсцы, дзе жыла мая мама і дзе мяне радзіла. Маму хтосьці папярэдзіў і ўсе перад пажарам схаваліся ў жыта.

Гаворыць аб гэтым, быццам бы ўсё гэта памятаў. Напэўна верна перакажа трагедыю і гераізм людзей з тых часоў.

Прафесію настаўніка Лукашук выбраў сам будучы вучнем пачатковай школы ў Пашкоўшчыне ў 1958 годзе. Паступае ў Педагагічны ліцэй у Бельску. Але ў тым часе не прафесія прыцягвала маладога хлапчука. Проста ў педліцэі вучыўся яго дваюрадны брат, які прыязджаючы ў вёску іграў на акардэоне.

— Мне гэта было прыкадай, — успамінае Сяргей. — Міма, што быў вучнем педліцэя, адразу не меў намеру быць настаўнікам. Да гэтай прафесіі пераканала мяне першая практыка.

Зараз Сяргей Лукашук кіруе школай. У гэтым годзе завочна закончыў настаўніцкую студыю, зразумела кірунак — музычнае выхаванне. Шмат працуе грамадска: з'яўляецца сакратаром грамадскага камітэта і партарганізацыі, кіраўніком партвучобы, камендантам гарцэрскага цэнтра, працуе ў ЗМВ. Дацэньваючы прафесіянальную і грамадскую працу Аддзел асветы прызнаў яму прафесіянальныя кваліфікацыі без экзаменаў.

Лукашук, зразумела, не растаецца з акардэонам. Ведаюць яго як акампаніятара бельскага хора БГКТ, а дзеці — як настаўніка спеваў. У будучыні хоча працягваць музычную адукацыю.



Мары? Простыя, адвечныя. Каб прыдбаць школе больш навуковых дапаможнікаў, а ў будучыні — каб працаваць у такой школе, дзе былі б лепшыя магчымасці да працы з дзіцячым калектывам.

## СТАЖ — 2 МЕСЯЦЫ

Калі аднаму з дзеячаў Гайнаўшчыны прызнаўся я ў тым, што хачу ў матэрыяле з нагоды Дня настаўніка ўспомніць аб **Нэаніле Харкевіч,** настаўніцы з Ласінкі — той абурыўся. — Мы маем дзесяткі настаўнікаў сапраўды дзеячаў і заслужаных, — гаварыў, — а ты тут выбіраеш кагосьці, хто настаўнікам толькі два месяцы.

Сапраўды Нэля Харкевіч — прадстаўнік наймалодшага пакалення настаўнікаў. У гэтым годзе закончыла СН аж у Аструдзе, куды пайшла проста пасля заканчэння беларускага ліцэя ў Гайнаўцы.

Нэля — спецыяліст па музычнаму выхаванню. Працу ў ласінкаўскай школе выбрала сама, бо сказалі «што і дзеці тут добрыя і настаўніцкі калектыў прыемны». Магла б працаваць у Гайнаўцы. Прапанавалі. Не захацела. Любіць вёску і яе дзяцей. Можа таму любіць, што сама з'яўляецца дзіцём вёскі? А можа іншыя сімпатыі?

Навука а праца — першыя разачараванні. Хто ж іх не меў. Нэля вучыць усіх прадметаў у III класе, а яе ж рыхтавалі толькі да музычнага выхавання. Толькі тут адчула, што ў СН было замала практыкі. Лічыла, што Ласінка бліжэй Гайнаўкі, а адсюль і музычнае выхаванне можна будзе лепш весці. Практыка і тут аказалася бязлітаснай. З аднаго боку ў школе амаль няма патрэбных навуковых дапаможнікаў, а з другога — чатыры гадзіны трэба вучыць дзяцей адну песню і за гэты час часам не навучацца.

* ✲ *

Розныя пакаленні, а тыя ж самыя настаўнікі. Тыя змагаліся за народную ўладу, гэтыя — за яе росквіт, тыя збіралі па вёсцы паперу з салявых мяшкоў на сшыткі, гэтыя змагаюцца за сучасныя навуковыя дапаможнікі. Але ўсе яны зараз змагары адной вялікай справы — сацыялізма і справядлівасці. У сваім змаганні лічаць на нашу дапамогу. А ці заўсёды яе атрымліваюць?

Майму сябру, дзеячу з Гайнаўшчыны, хачу сказаць, што такія як Нэля Харкевіч напэўна не мелі часу, каб выказацца грамадскай дзейнасцю, але з нагоды і іх свята варта напомніць усім, а перш за ўсё дзеячам, што да іх трэба працягнуць руку, інакш — уцягваць іх у грамадскае жыццё.

**Аляксей Карпюк**

## ПАЎТАРЫ ТЫСЯЧЫ БЕЛАРУСАЎ

У Беластоцкім павеце існуе 250 гурткоў ЗМВ, у іх ліку 180 гурткоў ЗМВ у вёсках. Рэшта, у школах — СПР-ах, прафесіянальных, тэхнікумах сельскагаспадарчага профілю, установах, звязаных з сельскай гаспадаркай. Разам членаў каля пяці з паловаю тысяч, у іх ліку каля паўтары тысячы ў беларускіх вёсках.

ЗМВ-оўскія арганізацыі найбольш актыўнымі з'яўляюцца ў ваколіцы Козінцаў, Заблудава і Юхноўца.

## БЕЛАСТОК — ГАРБАЧЫ

Пэкаэсавая лінія Беласток — Гарбачы праз Міхалова сталася фактам. Гэта дзякуючы ахвярнасці насельніцтва, якое прымала ўдзел у пабудове дарогі, без якой няма і гутаркі аб наладжанні пастаяннай камунікацыі. Дзіўна недацэньваюць таго гаспадары Падазеранаў, суседняй вёскі, дзе ўсё яшчэ пясок па воссі ды балота па калені.

У невялікія Гарбачы аўтобус курсуе два разы ў дзень: рана і ўвечары. (ся)

# У гайнаўскую пральню

Як жа часта найбольшыя і найпрыгажэйшыя словы не дадуць чалавеку столькі прыемнасці, як звычайная пральня ў горадзе. Бо ўсё часцей чалавек хоча быць не толькі чыстым сам, але і чыстую вопратку мець. І не толькі гарадскі чалавек. Калі была адкрыта пральня ў Гайнаўцы, то за адзін тыдзень прыйшло ў яе з вопраткай для сціркі 321 чалавек. Цяпер кожны дзень жанчыны ў белых фартухах выдаюць людзям па 40—50 штук высціранай, адпрасаванай вопраткі.

У пральні шумяць машыны. Увіваюцца дзяўчаты. Цікаўлюся, што найчасцей прымаюць яны ў сціркү: мужчынскі ці жаночы гардэроб. Адказваюць — больш-менш на палавіну. Або і больш мужчынскіх касцюмаў і плашчоў.

Як карыстае вёска з гайнаўскай пральні? Гайнаўская вёска вельмі хутка знайшла дарогу ў пральню і якраз найбольш з мужчынскім гардэробам. Белавежа, Дубіны, Нарва, Чаромуха, Чарлёнка, Дубічы Царкоўныя і Дубічы Асочныя ўжо прыходзілі ў пральню.

І ўсё здавалася б добра, каб не адно але. У Гайнаўскай пральні ўсё прасуецца ўручную. А як хутчэй было б, каб і гэтая праца выконвалася машынамі. Таму няхай паспяшаецца Беластоцкае прадпрыемства санітарных інсталяцый і заложыць паравое прасаванне і качалкі.

У далейшым плане ў гайнаўскай пральні мае быць уведзена самаабслугоўванне. А для кліентак, якія будуць чакаць сваёй чаргі, на месцы будзе гарбатка, кава і газеты.

Абслуга гайнаўскай пральні так цешыцца сваёй працай, і тым, што людзі да іх прыходзяць, што выходзячы адсюль, здаецца, быццам бы чысцейшым сам стаў. (вл)

На здымку павільён гайнаўскай пральні.

# Беларус — аўтарам першай рускай граматыкі

У бібліятэцы гданьскага аддзялення бібліятэкі Польскай Акадэміі навук, у сховішчы старадрукарскіх кніг, нядаўна была знойдзена самая рэдкая кніга, якая адсутнічае нават у найбольш вялікіх бібліятэках свету — першая руская граматыка складзеная выдатным беларускім вучоным таго часу — Ільёю Фёдаравічам Капіевічам, па даручэнню цара Пятра Вялікага.

Кніжка гэтая выйшла з-пад друкарскага варштата ў гданьскай друкарні Гольца, якая спецыяльна для друкавання рускіх кніжак набыла рускія так званыя «гражданские» шрыфты. «Гражданкай» гэтыя шрыфты былі названы ў адрозненне ад царкоўна-славянскага шрыфта, якім друкаваліся кніжкі рэлігійнага зместу.

Кніга Капіевіча настолькі рэдкая, што нават вядомая бібліяграфія К. Эстрэйхера прыводзіць яе загаловак па чутках, з памылкамі. Цяпер даследчыкі кніжнай старадаўнасці атрымалі магчымасць вывучыць непасрэдна добра захаваўшыйся экземпляр.

Ілья Фёдаравіч Капіевіч па асабістаму ўказанню Пятра І распрацаваў першапачатковую версію «гражданскага» друкарскага шрыфта. Пры гэтым кіраваўся ён рысункамі накіданымі самім царом. Маецца сведчанне Фёдара Палікарпава, дырэктара Маскоўскай друкарні, аб тым, што цар «своим неусыпным тщанием изволил изобрести абецедал русский». Шрыфт гэты потым лёг у аснову беларускага шрыфта XIX стагоддзя.

Капіевіч не толькі распрацаваў графічны бок шрыфта, — ён наглядаў за яго адліўкай і прымяненнем яго для друкавання першых рускіх кніжак, якія выдаваліся па загаду Пятра І ў Амстэрдаме.

Галандыя XVII стагоддзя была сканцэнтраваннем шматлікіх выдавецтваў, там працавалі буйнейшыя друкарні Еўропы. Расія прадстаўляла для кнігавыдаўцаў прынадны, вялікі рынак, таму, што ў Маскве, на Белай Русі і на Украіне адчувалася агромная патрэба ў «гражданскай» кнізе, пераважна навуковага зместу. Рускім кнігадрукаваннем у Амстэрдаме цікавіўся ў першую чаргу Ілья Фёдаравіч Капіевіч, беларус па паходжанню, вучоны, гуманіст, цудоўна авалодаўшы тэхнікай друкарскай справы.

Ураджэнец мінскай зямлі ён цудоўна валодаў беларускай, рускай, польскай і лацінскай мовамі, а пазней — галандскай і французскай. Гэта быў чалавек шырока адукаваны, яго веды мелі энцыклапедычны характар. Выхаванак Магілёўскай Акадэміі ён прадоўжыў сваю адукацыю ў Галандыі, дзе ў хуткім часе быў выбраны Пастарам амстэрдамскай духоўнай абшчыны.

Цар Пётр у час наведання Амстэрдама пазнаёміўся з Капіевічам, які зрабіў на яго цудоўнае ўражанне. Царскім указам 1699 года Капіевічу было надана званне «книжных дел пастера» і выдадзены «патэнт» на выдаванне «шматлікіх кніжак» на рускай мове, друкаваных «гражданкай».

Тады ж Капіевіч навязаў адносіны з амстэрдамскім друкаром Тэсінгам. У яго друкарні Капіевіч выдаў цэлы шэраг рускіх кніжак (звыш 20-ці назваў). Аўтарам і складальнікам быў усё той жа Ілья Фёдаравіч Капіевіч.

Ілья Фёдаравіч Капіевіч быў не толькі вучоным, але і выдатным педагогам. Гэта ён займаўся навучаннем рускай моладзі прысланай у Галандыю па асабістаму ўказанню Пятра Вялікага. Яго роля ва ўзнікненні рускай кнігі вялікая, ён складаў, перакладаў, складаў слоўнікі, падручнікі, атласы па геаграфіі, дапаможнікі па мораплаванню, падручнікі навігацыйнай справы; яго пяру належыць першая руская «гісторыя» аб падзеях з біблійскіх часоў пачынаючы і канчаючы Рымскай імперыяй. Не ўнікаў ён і паэзіі — ім упершыню перакладзены на рускую мову «Прытчы Эзопавы». У 1700 годзе Капіевіч адкрывае ў Амстэрдаме сваю ўласную «рускую» друкарню і разыходзіцца з друкаром Тэсінгам. У гэтай друкарні надрукавана шэраг дапаможнікаў і падручнікаў, маючых практычнае значэнне. Амстэрдамскія выданні друкаваны першай версіяй «гражданкі». Гэта ў асноўным яшчэ кірыліца, але без скарачэнняў, з увядзеннем некаторых знакаў лацінскага абрысу. Друкарня Капіевіча аднак ужо пераходзіць да ўдасканаленай, паводле ўказання цара, «гражданкі».

Каля 1705 года Капіевіч пераязджае ў Гданьск, каб арганізаваць тут рускую кнігавыдавецкую справу больш блізка да рускай граніцы. Гданьскі сенат аднак не дазволіў адкрыць друкарню ў самым Гданьску. Тады Капіевіч пры дапамозе друкара Хрысціяна Гольца ўладальніка друкарні ў Стахценбергу (каля Гданьска) пачынае там друкаваць рускія кніжкі. З гэтай мэтай друкарня Гольца атрымоўвае з Амстэрдама рускі шрыфт гражданскага абрысу. Тут з-пад друкарскага варштата выходзяць далейшыя працы Капіевіча, а сярод іх лацінска-руская граматыка. Экземпляр гэтай граматыкі і знойдзены нядаўна ў Гданьску.

Бібліяграфія кніжак выдадзеных Капіевічам дададзена да вышэйпаказаных «Уводзінаў у граматыку». Дарэчы гаворачы, гэтая кніжка з'яўляецца першай граматыкай гутаркавай мовы.

Кніжкі Капіевіча карысталіся ў Расіі вялікай папулярнасцю. Яшчэ ў 1712 г. і ў 1717 г. былі ў Расіі перавыдадзены «Прытчы Эзопавы» перакладзеныя на рускую мову Капіевічам. У 1718 г. быў перавыдадзены, складзены ім жа



 

# СЮЖЭТ І КАМПАЗІЦЫЯ ТВОРА

Літаратура адлюстроўвае жыццё. А ў жыцці людзі знаходзяцца ў складаных узаемаадносінах, сувязях. Гэтыя сувязі часта маюць супярэчлівы характар. Яны асноўваюцца на барацьбе новага са старым, перадавога з адсталым, барацьбе думак, поглядаў, якая кіруе ўчынкамі, паводзінамі людзей, выклікае сутычкі паміж імі.

Вострыя сутыкненні, абумоўленыя супрацьлегласцю характараў, інтарэсаў, імкненняў, пачуццяў людзей, называюцца **канфліктамі.** Канфлікт з'яўляецца асновай кожнага значнага мастацкага твора. Канфлікты, якія ўцягваюць у барацьбу шырокія масы народа, называюцца **сацыяльнымі** або грамадскімі.

У мастацкім творы канфлікт з'яўляецца асновай сюжэта. **Сюжэтам** называецца развіццё падзей і ўзаемаадносін персанажаў у творы. Сюжэт мае свой пачатак, найбольш востры момант і канец. У адпаведнасці з развіццём канфлікту ў сюжэце вызначаюцца такія элементы, як:

— **экспазіцыя** — уступная частка сюжэта, дзе аўтар знаёміць нас з героямі, месцамі і часам дзеяння. Пісьменнікі ў сваіх творах паказваюць не толькі само дзеянне, але і тое, што папярэднічала іх;

— **завязка** — той момант у творы, з якога пачынаецца развіццё дзеяння;

— **развіццё дзеяння,** якое прыводзіць да вышэйшага напружання, — да:

— **кульмінацыі** — вышэйшы пункт у развіцці сюжэта;

— **развязка.**

Кульмінацыйных пунктаў у буйным творы можа быць некалькі, таму што бывае некалькі сюжэтных ліній. У вялікіх апавядальных творах бывае яшчэ **эпілог** — паведамленне аб тым, што сталася з героямі пасля заканчэння дзеяння твора.

Для стварэння вобразаў, раскрыцця характараў і ўвогуле для адлюстравання жыцця пісьменнік злучае ў адно цэлае аўтарскія характарыстыкі з паказам перажыванняў, партрэт з размовай героя, з апісаннем яго паводзін, прычым у творы звычайна бывае не адзін герой, а некалькі, і аўтар знаходзіць кожнаму сваё месца.

Складаная арганізацыя твора, яго будова, размяшчэнне і спалучэнне асобных частак наз. **кампазіцыяй.** Элементы сюжэта, — аб якіх мова вышэй, — не заўсёды даюцца ў аднолькавай паслядоўнасці. Развязка можа быць і ў пачатку твора, а экспазіцыя — у сярэдзіне або ў канцы і г.д. Так, паэма «Курган» Я. Купалы (VI клас) пачынаецца з апісання кургана, пад якім пахаваны гусляр, а потым расказваецца пра тое, як ён загінуў. Усё гэта і вызначае кампазіцыя, якая ў сваю чаргу залежыць ад ідэйнага зместу твора. Кампазіцыя — адзін з асноўных прыёмаў раскрыцця ідэйнага зместу твора, залежыць ад таго, якую думку хоча выказаць пісьменнік.

У апавядальных творах ёсць нямнога такіх элементаў, якія з асноўным дзеяннем непасрэдна не звязаны. Гэта розныя апісанні, уступныя эпізоды, пейзажы, аўтарскія адступленні, разважанні аб падзеях ці аб героях.

Для кампазіцыі важна і тое, якімі спосабамі пісьменнік раскрывае змест твора. Асноўнымі спосабамі перадачы зместу з'яўляюцца аўтарскі расказ (павестваванне), апісанне і дыялаг. У апавядальных творах перадае **аўтарскі расказ,** г. зн. паведамленне аб падзеях, жыцці, паводзінах, учынках, перажываннях герояў. Пры дапамозе аўтарскага расказа раскрываецца сюжэт, перадаецца развіццё дзеяння.

У драматычных творах аўтарскі расказ адсутнічае. Змест у іх раскрываецца пры дапамозе **дыялагу,** размовы герояў.

**Апісанне** — гэта падрабязная перадача прыкмет і ўласцівасцей розных прадметаў і з'яў. Пейзаж, партрэт, паказ абстаноўкі, аўтарскія характарыстыкі заўсёды даюцца ў форме апісанняў. Апісанне і аўтарскі расказ часта спалучаюцца, адно пераходзіць у другое.

Паняцце аб апісанні, апавяданні і дыялагу, найбольш вобразна можна паказаць на прыкладзе «Міколка-паравоз» М. Лынькова (V клас).

У наступным адрэзку тэма: Мова мастацкага твора.

**А. К.**

**ВЫВУЧЭННЕ ПОЛЬСКІХ ГАВОРАК**

Мовазнаўцы раду савецкіх рэспублік у кантакце з Польскай Акадэміяй навук падрыхтавалі да друку ў Мінску першы зборнік «Польскія гаворкі ў СССР, 1969 год». Ён з'яўляецца вынікам трохгадовых даследванняў і змяшчае пераважна апісанні гаворак на тэрыторыі Беларусі і Літвы, атрыманыя навуковымі экспедыцыямі. Ёсць таксама матэрыялы з Украіны і з Латвіі.

У Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі, які ўзначальвае і каардынуе вывучэнне гэтай праблемы ў маштабе краіны, усе даследванні мяркуецца завяршыць у 1972 годзе. Гэта дазволіць стварыць поўнае апісанне польскіх гаворак і выпусціць невялікі дыялектны атлас. Картатэка, складзеная ў Інстытуце, ужо налічвае звыш шасцідзесяці тысяч лексічных адзінак з каментарыямі.




**Селядзец па-сірыйску**

Нарэжце на маленькія кубікі тры вараныя бульбіны, пакладзіце на дно салатніцы. Затым — слой дробна парэзанага філе селядца. Зверху пасыпце дробна парэзанай рэпчатай цыбуляй і паліце соусам правансаль (4 сталовыя лыжкі алею, 2 ст. лыжкі воцату, 2 чайныя лыжкі гарчыцы — усё перамяшаць). Затым пасыпце нацёртымі на бурачанай тарцы 3 яблыкамі (скурку зняць) і трыма сярэднімі па велічыні нацёртымі на тарцы варанымі буракамі. Заліце ўсё гэта слоікам маянэзу і праз 2 гадзіны падавайце на стол.

**БЕЛАРУСКАЯ МОДА**



Паліто для восені.

Фота В. Казлова

## Наш Каляндар

# МІХАСЬ КЛІМКОВІЧ

Мінула 70 год з дня нараджэння вядомага беларускага паэта, драматурга і крытыка Міхася Клімковіча. М. Клімковіч нарадзіўся 21 лістапада 1899 года ў вёсцы Сілітрынікі на Міншчыне ў беднай сялянскай сям'і. Пасля сканчэння вышэйшага чатырохкласнага гарадскога вучылішча ў Барысаве працаваў настаўнікам у вясковых школах.

Член Камуністычнай партыі з 1920 г. У 1921—1922 г.г. служыў у Чырвонай Арміі. На працягу многіх год працаваў у партыйных і савецкіх органах і ў Саюзе пісьменнікаў БССР.

З першымі вершамі выступіў у друку ў 1926 г. Пяру М. Клімковіча належаць драматычныя паэмы «Кацярына Жарнасек», «Адплата», «Уся ўлада Саветам!», «Георгі Скарына», а таксама апавяданні і літаратурна-крытычныя працы. М. Клімковіч з'яўляецца аўтарам гімна БССР.

Памёр 5 лістапада 1954 г.

# Дзяржаўны гімн Беларускай ССР

**Мы — беларусы з братняю Руссю**
**Разам шукалі к шчасцю дарог,**
**Ў бітвах за волю, ў бітвах за долю**
**З ёй здабывалі мы сцяг перамог!**

**Нас аб'яднала Леніна імя,**
**Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.**
**Партыі слава! Слава Радзіме!**
**Слава табе, беларускі народ!**

**Сілы гартуе люд Беларусі**
**Ў братнім саюзе, ў мужнай сям'і.**
**Вечна мы будзем, вольныя людзі,**
**Жыць на шчаслівай, вольнай зямлі.**

**Нас аб'яднала Леніна імя,**
**Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.**
**Партыі слава! Слава Радзіме!**
**Слава табе, беларускі народ!**

**Дружба народаў — сіла народаў,**
**К шчасцю працоўных сонечны шлях.**
**Горда ж узвіся ў светлыя высі,**
**Сцяг камунізма — радасці сцяг!**

**Нас аб'яднала Леніна імя,**
**Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.**
**Партыі слава! Слава Радзіме!**
**Слава табе, наш савецкі народ!**

# Кузьма Чорны

22 лістапада мінае 25 год з дня смерці выдатнага беларускага пісьменніка Кузьмы Чорнага (Мікалая Раманоўскага). Першае апавяданне К. Чорнага «На граніцы» было надрукавана ў 1923 г. У 1925 г. празаік выпусціў тры зборнікі апавяданняў і навел — «Апавяданні», «Срэбра жыцця» і «На дарозе». У 1926 г. выйшлі ў свет яго зборнікі «Пачуцці»,«Хвоі гавораць», а ў 1929 г. — зборнік «Вераснёвыя ночы». Нават у маленькіх абразках К. Чорны пранікаў у сутнасць тыповых з'яў жыцця і ўмеў раскрыць часам праз адну характэрную мастацкую дэталь самае істотнае ў сваім героі. У 1927 г. К. Чорны прыступае да стварэння буйных эпічных твораў і з таго часу выступае пераважна як раманіст. Ім напісана аповесці і раманы: «Сястра» (1927), «Зямля» (1928), «Лявон Бушмар» (1929), «Ідзі, ідзі» і «Вясна» (1930), «Бацькаўшчына» (1931), «Трыццаць год» (1934), «Трэцяе пакаленне» (1935), «Люба Лук'янская» (1936), «Настачка» (1940), «Пошукі будучыні» (1943), «Млечны шлях» (1944). К. Чорны хацеў стварыць серыю аповесцей і раманаў, у якіх меў намер паказаць гісторыю беларускага народа. Частку гэтай вялікай творчай задумы пісьменнік паспеў выканаць.

## Чэрць стагоддзя назад




**НА ХУТАРЫ**

Трывожна брахалі на хутары сабакі. Здавалася, нейкія прывіды снавалі вакол разведчыкаў. Германія не спала. Дакаціліся нарэшце і сюды водгукі вайны.

— Юзік зноў адстае, — перадалі па ланцужку.

Шпакаў спыніўся, глянуў на мяне, быццам збіраючыся нешта загадаць, але перадумаў.

— Пайду сам гляну, як ён там, — сказаў камандзір, ні да кога не звяртаючыся.

Мінуўшы групу, Шпакаў убачыў, як, прыпадаючы на нагу, засопшыся, спяшаўся Юзік.

— Стаміўся... Не магу так хутка ісці, — вінавата апусціўшы галаву, сказаў ён, параўняўшыся са Шпакавым.

— Мужайся, браток: да хутара ўжо недалёка. Там.. — не паспеў Шпакаў дасказаць, як трэск аўтаматных чэргаў парваў начную цішыню. Ён данёсся спераду, проста па курсу разведчыкаў. Шпакаў паглядзеў на компас.

— Падобна, што страляюць якраз там, куды мы ідзём, — адзначыў сам сабе камандзір.

Карыстаючыся замінкай, Зварыка прысеў.

Недзе крычалі мужчыны, загаласіла жанчына.

— Чуеце, дзіця плача? — насцярожылася Аня.

Немы, страшны розныгалосы крык уперамешку са стрэламі даносіўся з хутара. Там адбывалася нешта жахлівае.

— Што б гэта магло значыць? — занепакоіўся Мельнікаў.

— Паход за харчамі адмяняецца, — прыняў новае рашэнне Шпакаў.

— Ну што, Юзік, няма іншага выйсця. Трэба ісці...

Мы падаліся ўправа ад хутара і неахвотна пабрылі адзін за адным. І голад і трывога апанавалі нас. Там, дзе чутны былі галашэнні і стрэлы, чырвоным снапом шугануў высока ў неба вогненны бляск!

Пажар! Мы ўзабраліся на пагорак. Позірку адкрыўся палаючы хутар, чорнымі ценямі мітусіліся на яркім фоне людзі. Раптам пачулася гудзенне машын. Мы залеглі. Па палявой дарозе ў бок пажару ціха прайшлі тры крытыя грузавікі з зацемненымі фарамі. Тут, далёка ад фронту, мы прывыклі бачыць, што аўтамашыны ноччу ходзяць заўсёды з уключаным святлом.

Неўзабаве ў тым жа напрамку пачулася некалькі дружных залпаў, застукацеў кулямёт. Уверх узвіліся ракеты, і адразу ж аўтамабілі ўключылі святло. «Што б то магло быць?» — мучыла ўсіх нас пытанне.

Надзея на тое, што на хутары мы падсілкуемся, папоўнім запасы харчоў, надавала сілы. І на табе — надзея аказалася марнай! Не ведаю, як іншыя, а я вельмі стаміўся. Цяжка ісці першаму, тым больш — па спелым жыце. Сцяблы яго нібы драцяныя. Ды тут і не толькі фізічная нагрузка, але і нервовае напружанне, насцярожанасць. Каб не збіцца з курсу, трэба адшукваць арыенціры на мясцовасці, якія намечаны на карце. Ды і не будзеш звярацць іх кожны раз з картай, тым больш ноччу, а ў памяці трэба трымаць увесь час.

Пакуль развіднела, выйшлі на лінію чыгункі Інстэрбург — Цільзіт. Залеглі, выбраўшы зручнае месца для назірання.

Дзень прайшоў спакойна. Па чыгунцы прагрукатала некалькі пасажырскіх паяздоў, тры санітарныя. Ваеннай тэхнікі не відаць было. Шпакаў некалькі разоў схіляўся над картай: рашаў, на які хутар пайсці, каб разжыцца якім харчам.

— Відаць, сюды пойдзем, — тыцнуў пальцам камандзір на чатырохкутны значок. — Лес побач.

— Трэба ж некуды ісці. Хіба ўгадаеш, куды лепш? — не прыдумаўшы нічога лепшага, адказаў я.

Расцягнуўшыся ланцужком, мы падышлі да хутара. Калі да яго засталося метраў з паўсотні, Шпакаў загадаў Юзіку, Ані і Зіне залегчы і быць напагатове. А мы пайшлі на хутар. Калі падышлі да брамы, у двары забрахаў сабака. Шпакаў прасунуў у шчыліну ствол бязгучкі і націснуў курок. Сабака, нібы захліпнуўся сваім брэхам, ціха віскнуў і паваліўся на бок. Здаецца, вялікага шуму не нарабілі...

Іван Іванавіч пералез цераз плот і адчыніў брамку. Мы падышлі да дзвярэй, але не паспелі пастукацца, як у доме ўспыхнула святло, потым з сянец пачуўся старэчы голас:

— Хто там?

— Паліцыя. Адчыніце — загадаў я панямецку, разумеючы, што акрамя паліцыі, немцы нікому не адчыняць дзверы.

Бразнула засаўка. Згорблены стары ў белай кашулі ніжэй кален паказаўся на парозе.

— Што вам трэба? — спытаў ён хрыпатым, слабым голасам.

— Зброя ў доме ёсць? — не адказваючы на яго пытанне, спытаў я.

—Няма зброі.

Праз адчыненыя ў хату дзверы відаць была жаночая постаць.

— Мы будзем у вас браць харчы, — сказаў Шпакаў старому, напалавіну па-

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### ДЭКЛАМАТАРСКІ КАЛЕКТЫЎ

Дэкламатарскі калектыў бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя вядомы не толькі ў ваяводстве. Арганізаваўся ён не так даўно, бо пасля з'езда выпускнікоў ліцэя ў мінулым годзе. Кіруе гэтым калектывам настаўнік Віктар Баброўскі. Калектыў падрыхтаваў мантаж прысвечаны 25-годдзю Народнай Польшчы. З гэтым мантажом выступіў нават на ўрачыстай сесіі прэзідыумаў МРН і ПРН. На выступленнях дэкламатараў прысутнічалі таксама госці з СССР, якія нядаўна пабывалі на Бельшчыне.

Бельскія дэкламатары былі таксама гасцьмі VIII агульнаадукацыйнага ліцэя ў Любліне.

Зараз дэкламатары працуюць над новым мантажом прысвечаным 100 гадавіне з дня нараджэння Леніна.

**Веслаў Фалькоўскі**
**Бельск-Падляшскі**

### У ДУБІЦКАЙ ГРАМАДЗЕ

На дарозе Грабавец — Тапоркі ідуць работы пры жвіраванні дарогі. Жвір прывозяць трактарнымі прычэпамі з бліжэйшай жвіроўні. Машыны належаць да дубіцкага сельгасгуртка. Работамі кіруе Іван Майстровіч.

*

У Дубічах Царкоўных нядаўна распачата партыйнае навучанне членаў ПАРП, ЗСЛь, ЗМВ і БГКТ.

Тэматыка вучобы даволі шырокая і цікавая. Праводзіць яе тав. Бялеўскі з Гайнаўкі. На дакладах прысутнасць слухачоў высокая, нават беспартыйныя знаходзяць час прыйсці сюды.

*

У грамадзе Дубічы Царкоўныя ўжо існуе некалькі гадоў арганізацыя ТОС (тэрэновая група самаабароны). У склад яе ўваходзяць усе тыя малодшыя асобы, якія па розных прычынах да лінейнага войска не прызначаны і знаходзяцца ў рэзерве. Начальнік ТОС-у Мікалай Чыквін праяўляе многа энергіі, каб гэта арганізацыя заваявала належную пашану і любоў у грамадзе.

**М. Панфілюк**
**Дубічы Царкоўныя**

### ПЕРАДАЧА АБ БЕЛАРУСАХ

З «Нівы» даведаліся мы, што 2 лістапада будзе тэлевізійная перадача аб беларусах. З вялікім зацікаўленнем чакалі мы гадзіны $15^{30}$. І вось чуем беларускія песні, гарадоцкі мастацкі калектыў, «Лявоніху», паэта Віктара Шведа і Васіля Юраўца, Агату Карпюк, журналістаў «Нівы», харавы калектыў з Бельска, беларускі ліцэй, музей БГКТ у Белавежы, мастакоў Кабаца і Корзуна, прадукцыю саламяных вырабаў і гаршкоў.

Усё гэта суправаджалася адпаведным каментарыем і мелодыяй. Каб такіх перадач пабольш, вось такое наша жаданне.

**Сям'я М. Палуднеўца**
**Беласток**

### ГЕНАВЕФА ЛУЦЬЯН

Грамадская святліца ў Боцьках не мае зараз свайго памяшкання (ўжо паўтара года ў рамонце). Але дзякуючы ініцыятыўнасці кіраўнічкі святліцы Генавефе Луцьян ідзе далей нармальная культурна-асветная праца. Кіраўнічка цесна супрацоўнічае з мясцовай бібліятэкай і клуба-кавярняй. Тут арганізуе яна шмат цікавых мерапрыемстваў. Але найшырэйшае супрацоўніцтва ў Генавефы Луцьян з'яўляецца са святліцай у Якубоўскіх — суседняй вёсцы. Тут праводзіцца шмат мерапрыемстваў, конкурсаў на польскія і савецкія песні, дэкламатарскіх і іншых конкурсаў.

Для найбольш актыўных наведвальнікаў святліцы Генавефа Луцьян арганізуе паездкі ў Беластоцкі тэатр. Нядаўна былі яны на спектаклі «Дрэвы паміраюць стоячы». Святліцу ў Якубоўскіх наведала эстрада ГП «Лявоніха», вайсковы мастацкі калектыў з Беластока і беластоцкія артысты — Анджэй Кароляк і Генрык Длужынскі.

У Якубоўскіх пры дапамозе артыстаў арганізаваўся драмгурток і рыхтуе ён п'есу «Бомба выбухла ў 9». Ітак, Генавефа Луцьян не мае пастаяннага месца працы і таму выкарыстоўвае бібліятэку і кавярню ў Боцьках, а таксама святліцу ў Якубоўскіх да працы з паасобнымі калектывамі. У Боцьках існуе дзіцячы інструментальны калектыў і мастацкі калектыў. Ужо некалькі год працуе эстрадны калектыў «Маракасы». Ён часта выступае ў вёсках павета і ў Бельску.

Як ужо закончыцца рамонт святліцы ў Боцьках, тады культурна-асветная праца будзе яшчэ лепш развівацца.

**В. Фель.**
**Боцькі**

### ЯШЧЭ РАЗ АБ СЕМЯНОЎСКІМ КЛУБЕ

Нядаўна давялося мне пабываць у Семяноўскім клубе ў Гайнаўскім павеце. Вечарам сустрэў я ў клубе многа моладзі і старэйшых. Моладзь гуляла ў шахматы, у шашкі. Хлопцы частавалі дзяўчат кавай і вафлікамі. Газіраваных напіткаў таксама было тут дастаткова. Дзяўчаты чыталі газеты «Зялёны Штандар», «Пшыязнь», «Газету Беластоцкую», «Ніву» і іншыя.

Кожны знайшоў сабе нешта цікавае прачытаць. Хлопцы ўзяліся за адгаданкі. З адаптара плылі сучасныя мелодыі. У клубе на сценах ёсць сценгазетка «Ленін — камунізм», фотавыстаўка з жыцця БССР. Шкада, што клуб не мае тэлевізара. Добра, што моладзь можа глядзець час ад часу тэлевізійныя перадачы ў школе.

**Ц. Янцал**
**Новае Ляўкова**

### НЕДАХОП СЕЎНІКАЎ

Адчуваецца на вёсках вялікі недахоп сеўнікаў да высявання мінеральных угнаенняў. Замала наша прамысловасць дае іх для сельскай гаспадаркі. Напрыклад, у Беластоцкім павеце атрымана ў гэтым годзе толькі 60 такіх сеўнікаў, а запатрабаванне на іх вялікае.

Сяляне высяваюць мінеральныя ўгнаенні ўручную, а гэта зноў вельмі небяспечнае для здароўя.

(сс)

### ЗАКЛАДАЮЦЬ СІЛАСЫ



Міхась Граматовіч з вёскі Ваські (Гайнаўскі пав.) закладае сілас ад 1966 года. У гэтым годзе ўклаў ён у дзве сіласныя ямы больш 60 цэнтнераў зялёнай масы. Сіласуе ён траву, лісце капусты і буракоў.

Варта дадаць, што М. Граматовіч загаспадараваў луг на Баравіску, пабяліў кароўнік і звапнаваў свае палеткі.

З выдатнай дапамогай і парадай прыходзіць яму працаўнік сельскагаспадарчай службы, заатэхнік Генрык Катовіч, які працуе ў Нарве.

**Тэкст і фота**
**Янка Цялушэцкі**

### УРАЧЫСТАСЦЬ

26 кастрычніка ў грамадскай святліцы ў Мілейчыцах адбылася вялікая ўрачыстасць прысвечаная 26 гадавіне Войска Польскага, 25 гадавіне міліцыі і службы бяспекі, 25 гадавіне Лігі абароны краіны.

На ўрачыстасць склалася: а) кароткі даклад, б) сустрэча з людзьмі ў мундзірах, в) мастацкая частка і «згадуй-згадуля».

У сустрэчы ўзялі ўдзел: ветэран II-ой сусветнай вайны, удзельнік баёў пад Леніна гр. Мікалай Юзафовіч, прадстаўнік МО гр. Язэп Стынец і прадстаўнік Лігі абароны краіны Янка Галімскі і жыхары Мілейчыц.

У мастацкай частцы выступіў дуэт у асобах Анелі Келбік і Зосі Дземянюк. Гэтыя маладыя дзяўчаты спявалі салдацкія песні. Пасля выступілі школьнікі з дэкламацыяй вершаў прысвечаных салдатам і работнікам міліцыі.

У «згадуй-згадулі» прыняло ўдзел 10 асоб, якія адказвалі на пытанні па гісторыі Войска Польскага і 25-годдзя ПНР. Кожны з удзельнікаў атрымаў рэчавую ўзнагароду ўстаноўленую Банкам СОП-у ў Мілейчыцах.

Арганізатарамі ўрачыстасці былі: грамадскі цэнтр культуры, праўленне аддзела БГКТ і Ліга абароны краіны.

**Сяргей Крэйза**
**Мілейчыцы**

### ЗАСЛУЖАНЫ ПЕДАГОГ



Язэп Альшэўскі пачаў настаўніцкую дзейнасць у 1951 годзе ў Градзіску, Сямяціцкага павета. Пасля працаваў у Клюковічах, Сутках, а пазней кіраўніком школы ў Парцаве. Ад 1962 года Язэп Альшэўскі працуе ў аддзеле асветы ў Бельску Падляшскім, а ад 1966 года з'яўляецца падінспектарам. Апрача прафесіянальнай працы шмат часу прысвячае грамадскай дзейнасці. Заўсёды актыўны ў партыйнай арганізацыі, шмат грамадскіх функцый выконваў у Павятовым камітэце ПАРП.

У Беларускім таварыстве вядомы ён не толькі як дзеяч Бельскага аддзела БГКТ. Язэп Альшэўскі на VI з'ездзе БГКТ выбраны старшынёй Рэвізійнай камісіі ГП. Высока цэніцца яго праца і ў ТППР. Аб гэтым сведчыць той факт, што яму была ўручана залатая Адзнака ТППР.

У сувязі з 25 гадавінай нашай краіны Рада Дзяржавы прызнала яму Сярэбраны Крыж Заслугі.

**Тэкст і фота**
**В. Фалькоўскі**
**Бельск Падляшскі**

---

руску, напалавіну па-нямецку.

Нічога не адказаўшы на тэта, стары павярнуўся і пайшоў у хату. Я увайшоў следам за ім і спыніўся ў пярэднім пакоі. Стары знік за дзвярыма, што вялі ў сумежны пакой. Не паспеў я як след разгледзецца, як з-за перагародкі пачулася:

— Выходзьце з хаты! А то страляць буду!..

Расчыніліся дзверы, ствол паляўнічага ружжа быў нацэлены проста мне ў грудзі. Я не чакаў такой увішнасці ад старога.

У мяне на грудзях вісеў аўтамат, у правай руцэ быў пісталет, але ж перавага была на баку старога: варта яму націснуць на курок, і — усё будзе скончана... Я павярнуў галаву і сказаў па-нямецку Шпакаву:

— Паклічце жандара! Вось як нас сустракаюць у Прусіі...

І ўжо да гаспадара:

— Вы разумееце, супраць каго падымаеце зброю? Мы — добраахвотнікі і служым у нямецкай арміі.

Немец завагаўся, на момант апусціў ружжо дулам уніз. Гэтага было дастаткова. Я кінуўся на старога і паспеў адвесці ўбок ствол ружжа. Пачуўся стрэл. Смярдзючы дым заслаў пакой. Закрычала недзе жанчына. Я вырваў з рук старога ружжо.

Паспешна ўзяўшы харч, мы кінуліся з хаты.

Да раніцы паспелі абследваць вялікі раён на поўнач і на паўночны ўсход ад Інстэрбурга, а на днёўку схаваліся ў невялікім хмызняку.

(Працяг будзе)

---




**Дарагое Сэрцайка!**

Хачу табе напісаць аб адной справе, якая напэўна зацікавіць шмат хлопцаў. Гэта навука танца. Мне 17 год. Раней я не мог навучыцца танцаваць, таму што ў нашай школе патанцоўкі адбываліся толькі на новы год і на канец вучэбнага года, а на патанцоўкі для старэйшых не можна было нам хадзіць. Як навучыцца танцаваць? Можа ёсць якія-небудзь кніжкі аб навуцы танца? Парай, дарагое Сэрцайка. За параду буду вельмі ўдзячны.

**Сярожа з Бельскага пав.**

**Сярожа!** Такіх лістоў мы атрымоўваем вельмі многа. І адказаў было ў «Ніве» таксама многа. Таму раю табе заглянуць у нумары «Нівы» з мінулага года, дзе знойдзеш некалькі такіх пісьмаў і адказаў. Пытаеш, ці ёсць якія-небудзь кніжкі аб навуцы танца? Ёсць. А вось падаю іх табе: M. Wieczysty «Taniec towarzyski», Wyd. Iskra, 1958 r., Krystyna Moll «Wszystkie pary tańczą», Wyd. CRZZ, 1966 r. Аднак гэтых падручнікаў няма ўжо ў кнігарнях беластоцкіх, але могуць яны быць у кнігарнях павятовых, таму раю табе там звярнуцца. Перш за ўсё адносіцца гэта да падручніка Крыстыны Моль, які выдадзены ў 1966 годзе. Паспрабуй, мо атрымаеш. Раю табе таксама заглянуць у кожны нумар «Радара», там заўсёды М. Вечысты падае новыя модныя танцы.

**Жадаю поспехаў**
**Сэрцайка**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Kochajmy syrenki" (polski), 25—26. „Brat dr Homera" (jugosłowiański), 27—28. „Czworokąt śmierci" (czeski), 29—30.

**Дубіны**
„Maskarada szpiegów" (franc.), „Manewry Dniepr" (radz.), 29—30.

**Нараўка**
„On nie chciał zabijać" (radz.), „Zakochana wiedźma" (włoski), 26—30.

**Нарва**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), „Tarahumara" (meksykański), 26—30.

**Чыжы**
„Umarli milczą" (NRD), I i II s. 26—30.

**Дубічы Царкоўныя**
„Cierpkie wino" (radz.), „Susza" (brazylijski) 26—30.

**Арэшкава**
„Miłość blondynki" (czeski), „Skrzydła Października" (radz.), 29—30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Браньск**
„Romeo i Julia" (węgierski), 25—26. „Wiryneja" (radz.), 27—28. „Czerwone i złote" (polski), 29—30.

**Боцькі**
„Testament gangstera" (franc.), „Tak się zaczęło" (NRD), 26—30.

**Орля**
„Start" (belgijski), „Wiryneja" (radz.), 26—30.

**Райск**
„Dr Crippen przed sądem (angielski), „Czarny mustang" (USA), 26—30.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Miłość i Jazz" (szwedzki), „Brat dr Homera" (jugosł.), 25—28.

**Міхалова**
„Dziewczyna na rozdrożu" (bułgarski), 25—26. „Francja naprzód" (franc.), 27—28. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 29—30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Na szlakach wojennych przygód". (czeski), 25—26 „Ballada huzarska" (radz.), 27—28. „Grawitacja" (jugosł.), 29—30.

**Янаў**
„Twój współczesny" (czeski), 26—30.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ*

**Нурэц**
„Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 25—26. „Jo-jo" (franc.), 27—28. „Dzika Elżbieta" (czeski), 29—30.

**Мельнік**
„Obok prawdy" (polski), 25—26. „Walizka z milionami" (franc.), 27—28. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 29—30.

**Мілейчыцы**
„Stawka większa niż życie" (polski), 25—26. „Wojenka, wojenka" (rumuński), 27—30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Październik" (radz.), „Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 26—30.

**Новы Двор**
„Berlin" (radz.), „Karambol" (węgierski), 29—30.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6620




 

